**№ 154 (1218)**
Серада, 22 жніўня 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 100 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

# Народная Воля

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па краіне захаваецца пераменная воблачнасць, на большай частцы тэрыторыі — кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер няўстойлівы, 3—8 м/с, месцамі пры навальніцах шквалістыя ўзмацненні да 15—20 м/с.

Тэмпература паветра ў Віцебску — +24...+26, Гродне, Мінску — +26...+28, Гомелі, Брэсце — +29...+31, Магілёве — +27...+29.

У наступныя двое сутак: 23-га — па поўдні кароткачасовыя дажджы, навальніцы; 24-га — без ападкаў. Вецер паўночны, 3—8 м/с. Тэмпература паветра 23-га ўначы — +9...+18; 24-га — +7...+24, удзень — +19...+24.



**ПУЛЬС**

## У Лідзе міліцыя высвятляе паходжанне камп'ютэраў грамадскіх арганізацый

**Міліцыя горада Ліды пачала рэалізоўваць загад УУС Гродзенскага аблвыканкама аб праверцы камп'ютэрнай тэхнікі мясцовых грамадскіх арганізацый.**

У гарадскі аддзел міліцыі быў выкліканы Артур Ганько, кіраўнік цэнтра "Генерацыя". Запрасіў яго на размову маёр Рыбак, патэлефанаваўшы Ганько дахаты. Размова ў міліцыі цягнулася паўтары гадзіны, прычым з Артурам размаўлялі розныя супрацоўнікі міліцыі. Усе пытанні тычыліся паходжання тэхнікі, якая ёсць у "Генерацыі". Паводле слоў Станіслава Судніка, размова міліцыі з Артурам Ганько скончылася нічым, усю дакументацыю, якая датычыць тэхнікі, міліцыянты мелі яшчэ паўгода назад і ніякіх парушэнняў заканадаўства заўважана не было.

**Павел МАЖЭЙКА.**

## Папярэджанне газеце "Наша свабода"

**Дзяржаўным камітэтам па друку вынесена афіцыйнае папярэджанне незалежнай газеце "Наша свабода".**

Папярэджанне датавана 17 жніўня. Менавіта ў гэты дзень супрацоўнікамі Дзяржкамітэта фінансавых расследаванняў было канфіскавана 400 тысяч экземпляраў спецвыпуска газеты "Наша свабода". Рэдактар Павел Жук лічыць, што гэтыя факты звязаны між сабой і з'яўляюцца спланаванай акцыяй, накіраванай на закрыццё газеты.

У папярэджанні гаворыцца, што яно вынесена на падставе артыкула 16 закона Рэспублікі Беларусь "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" у сувязі з парушэннем артыкула 32 гэтага ж закона. У спецыяльным выпуску быў апублікаваны артыкул, у якім гаворыцца: "Аляксандр Лукашэнка, выступаючы перад "вертыкаллю", абвінавациў Ярмошына і Мясніковіча ў падрыхтоўцы змовы...". Аднак гэтыя звесткі, як гаворыцца ў папярэджанні, з'яўляюцца недакладнымі. Таму Дзяржкамітэт па друку папярэдзіў рэдакцыю газеты "Наша свабода". У выпадку паўторнага парушэння ў адпаведнасці з часткай 2 артыкула 16 згаданага закона дзейнасць сродку масавай інфармацыі будзе прыпынена на тэрмін да трох месяцаў. Папярэджанне можа быць абскарджана на працягу аднаго месяца ў Вышэйшым гаспадарчым судзе.

Кіраўніцтва газеты мае намер скарыстаць гэтае права. Паводле слоў Паўла Жука, згаданы матэрыял друкаваўся ў іншых газетах. У "Нашай свабодзе" ён быў надрукаваны ў значна скарочаным выглядзе.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

## Павестка Бяланаву

**20 жніўня Руслан Бяланаў, кіраўнік гомельскага гарадскога выбарчага штаба кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Уладзіміра Ганчарыка, быў запрошаны па павестцы для гутаркі ў абласное ўпраўленне Дзяржкамітэта фінансавых расследаванняў.**

Як паведамляў БелаПАН, 17 жніўня Руслан Бяланаў застаў дваіх чалавек у цывільным у офісе штаба, што быў зачынены ім уласнаручна на ключ. Візіцёры не патлумачылі, як яны трапілі ў памяшканне, але прапанавалі Бяланаву з'явіцца ў панядзелак раніцай для гутаркі ў абласное ўпраўленне Дзяржкамітэта фінансавых расследаванняў. Але не атрымаўшы за выхадныя дні павесткі, Бяланаў вырашыў не ісці па названым адрасе. Аднак прыкладна апоўдні супрацоўнікі ўпраўлення прывезлі яму павестку проста дамоў, і таму Бяланаў з'явіўся на сустрэчу.

Як паведаміў БелаПАН сам Руслан Бяланаў, следчы Фурс цікавіўся, акуль у яго мабільны тэлефон, на якія сродкі ён жыве, хто аплачвае кватэру, дзе размяшчаецца офіс штаба. Бяланаў удакладніў, што гэтыя пытанні следчы задаваў, па яго ж уласных словах, у рамках крымінальнай справы, якая ўзбуджана абласным упраўленнем КДБ па фактах апаганьвання сцен будынкаў цынічнымі надпісамі (артыкул 341 КК). Па словах Бяланава, ён напісаў тлумачэнне па зададзеных пытаннях і ніякіх іншых папер не падпісваў.

**Ірына ШАНЦАВА.**

## Віталь Малашка трапіў у аўтамабільную катастрофу

**Адзін з кіраўнікоў выбарчага штаба адзінага кандыдата ад шырокай грамадзянскай кааліцыі Уладзіміра Ганчарыка, член кіраўніцтва Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), былы дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання Віталь Малашка трапіў у аўтамабільную катастрофу.**

Гэта адбылося прыкладна ў 14 гадзін 19 жніўня непадалёк ад горада Бяроза Брэсцкай вобласці. Віталь Малашка і яго жонка Інеса на асабістым аўтамабілі "Варбург" вярталіся з Брэста ў Мінск. У Брэсце ў В.Малашкі адбыўся шэраг дзелавых сустрэч, звязаных, у прыватнасці, з арганізацыяй перадвыбарнай агітацыі за Уладзіміра Ганчарыка, паколькі Малашка адказвае за перадвыбарную кампанію па Брэсцкай вобласці.

Як расказала жонка, машыну на роўнай шашы нечакана занесла. Яна двойчы перакулілася і была выкінута на сустрэчную паласу. Віталь Малашка атрымаў сур'ёзныя траўмы. У яго перапом асновы чэрапа і шматлікія парэзы твара. У рэанімацыі Бярозаўскай раённай бальніцы яму наклалі 32 швы. Зараз яго рыхтуюць да аперацыі. У жонкі выяўлены пералом грудзіны і аднаго рабра.

Па факце дарожна-транспартнага здарэння супрацоўнікі ДАІ праводзяць праверку, дапытваюць пацярпелых і сведак. Паводле слоў Інесы Малашка, яна не можа дакладна меркаваць, што адбылося. Асноўная версія — нечакана лопнула задняе кола. А ў штабе Уладзіміра Ганчарыка палічылі дачасным выказваць нейкія версіі да знаёмства з вынікамі расследавання.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

## Датэрмінова галасаваць на прэзідэнцкіх выбарах плануюць толькі 6 працэнтаў мінчан

**"Вы збіраецеся галасаваць на прэзідэнцкіх выбарах датэрмінова ці непасрэдна ў дзень выбараў?" — з такім пытаннем 14—17 жніўня бягучага года звярнуліся да мінчан супрацоўнікі сацыялагічнай службы "Зеркало" інфармацыйнай кампаніі БелаПАН.**

Большасць — 72 працэнты з 500 апытаных выбаршчыкаў — сказалі, што будуць галасаваць у дзень выбараў, 6 працэнтаў — датэрмінова, а кожнаму пятаму рэспандэнту (22 працэнты) было цяжка адказаць на прапанаванае пытанне.

Адказы на пытанне аб удзеле ў маючых адбыцца выбарах паказалі, што 79 працэнтаў жыхароў беларускай сталіцы прыйдуць 9 верасня на выбарчыя ўчасткі, 13 працэнтаў апытаных не будуць удзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах, а 8 працэнтам рэспандэнтаў было цяжка адказаць на прапанаванае пытанне.

**Леанід МІХЕЙЧЫКАЎ.**

# ПРАГРАМНЫ ВЫСТУП КАНДЫДАТА Ў ПРЭЗІДЭНТЫ СЯМЁНА ДОМАША



Вітаю Вас, шаноўныя грамадзяне!

На мінулым тыдні быў дадзены старт выбарчай кампаніі прэзідэнта. Мы выйшлі на фінішную прамую. 9 верасня Вы будзеце вырашаць: ці жыць, як жывем, ці мы ўсё ж такі будзем жыць па-новаму.

Нядаўна адзін мой знаёмы распавёў такую гісторыю. Ён вяртаўся цягніком з аднаго з абласных цэнтраў Беларусі. Жанчына паскардзілася яму на сваю жыццёвую, асабістую сумную, але, па сутнасці, тыповую сітуацыю. Яе муж пакрыху співаецца. "Я яго разумею, — гаворыць яна, — я шкадую яго. Раней ён добра зарабляў, у яго залатыя рукі, прыносіў грошы, а зараз... Зараз ён п'е ад сораму, толькі б не глядзець мне і дзецям у вочы, таму што нармальны здаровы мужык сёння, у нашай Беларусі, ужо дастаткова зарабіць не можа".

І другое. Звярніце ўвагу, як на вакзалах ці ў другіх месцах бабулі гандлююць семкамі, гароднінай, цыгарэтамі — усім, чым заўгодна, — каб проста фізічна выжываць, а маладыя хлопцы, якія пайшлі ў міліцыю дзеля высакароднай мэты — змагацца са злачыннасцю і абараняць нас, замест гэтага праганяюць іх з месца гандлю.

Бо ім так загадалі.

Што за ўсім гэтым праглядаецца?

### Вынік нашага сямігадовага жыцця

Да чаго мы прыйшлі? Ці пра гэта мы марылі сем гадоў таму, калі выбіралі дэмакратычным шляхам першага прэзідэнта сваёй краіны?

Магчыма, не ўсім спадабаецца тое, што я скажу, але я ўсё роўна гэта скажу: **нас усіх зрабілі дурнямі**.

Сем гадоў таму на гэтым месцы перад Вамі сядзеў другі чалавек. Ён тады шмат каму спадабаўся. Памятаеце, што ён абяцаў?

Ён абяцаў усё і ўсім.

Моладзі ён абяцаў перспектывы, старым кампенсацыю спаленых зберажэнняў тэлевізарамі, халадзільнікамі і машынамі, высокія, годныя пенсіі. Працоўным — запусціць заводы, задушыць інфляцыю. Ён абяцаў знішчыць карупцыю, адправіць — я гэта памятаю добра — хабарнікаў самалётам у Гімалаі.

А што атрымалася?

Сёння ў Беларусі, пэўна, ужо трэба не адзін самалёт, каб вывезці ўсіх тых, хто бярэ хабар, і ўсіх казнакрадаў, таму што ўсе яны знаходзяцца пад адной "крышай" — неабмежаванай уладай аднаго чалавека, якому служаць. Злачынцамі ж аб'яўляюць, зыходзячы з палітычнай мэтазгоднасці.

Наш народ быў яшчэ раз абдураны ў 1996 годзе. Атрымліваецца, мы ўсе прагаласавалі за тое, каб мясцовых кіраўнікоў мы не выбіралі, а нам прызначалі; больш таго, атрымліваецца, мы з вамі ўсе разам вырашылі, што ў нашай краіне можна ствараць нікім не кантраляваны так званы прэзідэнцкі фонд — колькі там грошай, не ведае ніхто. Нават міністр фінансаў разводзіць рукамі і кажа, што анічога пра гэта не ведае.

Газета "Новые Известия" неяк назвала суму: 2 млрд. 200 млн. долараў — гэта па 2200 на кожнага жыхара Беларусі з улікам немаўлят.

Дзе гэтыя грошы?

Гэта што — мы з Вамі прагаласавалі за тое, каб адзін чалавек схаваў іх ад нас і мог, калі захоча, пакласці іх сабе ў кішэню ці выкарыстаць іх так, як яму спадабаецца!

Дык за якіх жа дурняў ён лічыць нас з Вамі!

...І як апошняя кропка — знікненне людзей, вядомых палітыкаў: Захаранкі, Ганчара, Красоўскага, аператара расійскага тэлебачання Завадскага — і гэта ў ціхай, талерантнай Беларусі... Паглядзіце ў вочы іхнім жонкам, маці, дзецям, паслухайце, што яны Вам скажуць.

Пры гэтым — поўнае маўчанне ўлады.

Дакладней, яна адказала: калі ў недзяржаўнай прэсе з'явіліся матэрыялы аб існаванні эскадронаў смерці, замест расследавання і тлумачэння, пачаўся наезд на на тых людзей, хто гэта агучыў.

Як быў праў Васіль Быкаў, калі казаў, што кожная дыктатура ў рэшце рэшт канчае забаронай на жыццё людзей — у цяперашнім беларускім варыянце гэта забарона на наша з вамі жыццё.

У нас ужо скрадзены сем гадоў, а гэта дзесятая частка чалавечага жыцця — і жадаюць скрасці яшчэ як мінімум пяць.

Спытайце ў сваіх дзяцей, у сваіх унукаў, ці згодныя яны з такой доляй?

Адказ зразумелы — мы ўсе яго ведаем. Адсюль вынікае, што мы павінны змяніць сітуацыю. Гэта патрэбна нашым дзецям і ўнукам. Няўжо мы і іх не павінны паслухаць?

Але шмат хто кажа: "Что я могу сделать? Я маленький человек..." Аднак ужо сёння добра вядома, што нас, нязгодных з гэтым рэжымам, больш за 70 працэнтаў. І што — мы ўсе маленькія людзі?

Я скажу вам: НЕ БЫВАЕ МАЛЕНЬКІХ ЛЮДЗЕЙ — БЫВАЮЦЬ МАЛЕНЬКІЯ МЭТЫ.

ДАВАЙЦЕ ПАСТАВІМ ПЕРАД САБОЮ ВЯЛІКУЮ МЭТУ — І МЫ СТАНЕМ ВЯЛІКІМ НАРОДАМ, ЯКІ ЖЫВЕ Ў ГОДНАЙ КРАІНЕ.

***

Меня часто называют белорусским националистом, особенно здесь, на белорусском телевидении.

Почему?

Может, потому, что в отличие от многих представителей нынешней власти, я могу свободно говорить по-белорусски.

У меня часто в памяти возникает история.

Как-то раз на вокзале в Вильнюсе я брал в кассе билет. Передо мной было два человека. Первый обратился к кассирше по-польски, и она ответила ему по-польски. Следующая женщина — литовка — и с кассиршей они поговорили по-литовски.

Я решил: "Ну-ка, попробую", — и задал вопрос по-белорусски. И что Вы думаете? — мне ответили на неплохом белорусском языке.

Так что, наши белорусские чиновники тупее этой литовской кассирши?

Никак не могу с этим согласиться! И вот почему.

В начале 90-х, когда я был мэром Гродно, однажды на митинге, куда я был приглашен, услышал обвинение в том, что белорусские власти не знают белорусского языка. Я подумал: "Я же белорус, окончил белорусскую школу, неужели я забыл свой родной язык?"

*(Окончание на 2-й стр.)*

**ГРОМКАЯ ТЕМА**

# "Когда расстреливали этих людей, их убивали "Именем президента!"...

**Марина КОКТЫШ**

*На днях в офисы некоторых аккредитованных в Беларуси российских телекомпаний, а также в информационное агентство БелаПАН неизвестные люди передали видеокассету с записью примерно двадцатиминутного монолога человека, который представился бывшим военнослужащим внутренних войск МВД. Он рассказывает о подробностях исчезновений исполняющего обязанности председателя Верховного Совета Беларуси 13-го созыва Виктора Гончара и бизнесмена Анатолия Красовского.*

*Лица говорящего на пленке не видно, его голос, судя по всему, с конспиративной целью сильно искажен.*

*В связи с тем, что в своем монологе он обратился прежде всего к сотрудникам КГБ и прокуратуры, компания БелаПАН передала видеоматериал в эти структуры.*

*"Народная воля" публикует текст, списанный с видеокассеты, не для того, чтобы накануне президентских выборов потрясти общественность грязной пиаровской сенсацией. Речь идет о страшных вещах, когда молчать просто нельзя. Речь об убийствах, в которых подозреваются высшие должностные лица государства. Мы уже писали о том, что в любой нормальной стране срочно создали бы специальную независимую комиссию по проверке не только документов, обнародованных Владимиром Гончариком, но и этой кассеты.*

*Более того: на пресс-конференции Александр Лукашенко обещал лично познакомить журналиста "Народной воли" с протоколами допроса командира СОБРа Дмитрия Павличенко. К сожалению, обещание до сих пор осталось только обещанием...*

*Более того, у нас есть огромное желание задать вопросы офицеру, которого, по словам одного генерала, кому-то выгодно выставить "олигофреном в стадии дебилизма с большого бодуна". Хотя "президентские" газеты называют Павличенко не иначе, как "ум, честь и совесть МВД Беларуси". Видимо, поэтому он только для них и доступен...*

*Как бы там ни было, журналисты "Народной воли" постараются встретиться с людьми, чьи фамилии упоминает бывший военнослужащий части спецназа внутренних войск. А сейчас — его монолог.*

"Я, бывший военнослужащий части спецназа внутренних войск, хочу рассказать следующее. Я проходил службу в военной части 3214 во внутренних войсках Республики Беларусь. Потом я служил в СОБРе, на базе под Бегомлем. Там в сентябре 1999 года мне довелось стать свидетелем событий, которые, как я полагаю, имеют прямое, непосредственное отношение к исчезновению в тот период политиков Гончара и Красовского. Все это время я боялся рассказывать про это, потому что люди, которые участвовали в этих делах, готовы на все.

В первой роте, которая состояла из более чем ста человек, была группа "сверхсрочников", которые служили не так, как все. Они все, в принципе, "краповые береты". Группа находилась в непосредственном подчинении командира первой роты тогда майора Павличенко. Примерно где-то раз в неделю эти люди выезжали куда-то за пределы части.



Выезжали они обычно в гражданской одежде, при этом получали оружие и маски. Выезжали на моей памяти довольно часто. Служба этой группы проходила так, что, в принципе, никто не знал, какие задачи выполнял, кроме непосредственных их исполнителей, ну и, конечно, командир. Команды отдавал сам непосредственно Павличенко. Там был еще прапорщик такой — Балынин — по кличке Балу. Но Павличенко всегда командовал сам лично. Балу на задания не брали — он толстый, неповоротливый.

Выезжала группа на двух машинах — "БМВ-525" и "Ауди-200" красная. Двухсотая "Ауди" — это американский вариант обычной "Ауди-сотки". Машины принадлежали СОБРу. Они все были взяты из "конфиската". Номера на машины вешались любые — гражданские, красные, любые номера, целая куча номеров была, и доступ был ко всем. Очень часто ездили, например, номера "02 21 ММ" и "02 24 ММ". На лобовых стеклах машин вот этих вот двух были пропуска всюду. В просторечии — "нечапайки". С такими пропусками никто машины не останавливал — ни ГАИ, ни ВАИ, никто. Чуть позже появился бордовый микроавтобус "Форд", тоже с таким вот пропуском. У всех машин были тонированные стекла. Да, еще был периодически белый "Опель".

Тогда в 1999 году в середине сентября эта группа вечером на "БМВ" и "Ауди" поехала, как обычно, в город. Как мне потом рассказали, они в Минске захватили двух людей, которые стояли возле джипа "Чероки". Их захватили, а потом подъехали быстро наши машины, этих людей закинули по одному в каждую машину. За руль джипа посадили солдата из автороты по фамилии Мекиянец. Так колонной около часа ночи они приехали в часть.

Я слышал, как машины подъехали. Но в часть они сразу не заезжали. После того как машины остановились, было два выстрела с небольшим перерывом. Через какое-то время "БМВ" и "Ауди" заехали на территорию части. Как мне показалось, мне потом и рассказали, джип остался в лесу, недалеко от части. Офицеры и "сверчки" пошли ужинать, потом спать.

На следующий день по приказу сразу после завтрака где-то в 9.30 нас погнали в лес яму копать. С нами пошел Павличенко. Копали до обеда где-то. Выкопали здоровую яму, глубокую. Сначала был песок, потом пошла какая-то глина с камнями. Мы выкопали яму и вернулись в часть. А вечером несколько "сверхсрочников" загрузили в ГАЗ-66 ломы и кувалды и поехали в лес к этой яме. Вместе с ними поехал БТР. На нем выехал командир автороты, тогда еще лейтенант Коклин.

Джип загнали в яму, БТРом раздавили и укатали землей. Павличенко ничего не разрешил забирать из джипа. Кто-то хотел забрать магнитолу, но Павлик не дал. Взяли только большой аккумулятор. Его потом ставили на разные машины, он был в автороте как подменный. Только с трупов еще раньше сняли золото и выбросили в озеро.

В операции по захвату людей также участвовали прапорщик Мурашко, **такой под сорок лет**, спецназовец, и **"краповики-сверхсрочники" Юрий Будько и** Новаторский, **по-моему, Владимир. Они и на другие дела ездили. Фамилии еще нескольких из этой группы не знаю, но могу** опознать. **Одного, который** рядом со знаменем, **часто показывают** по **телевизору в рекламе** ветеранов **спецназа. Их фотки** есть в буклете **про наши войска.**

После **этой операции все** участники **группы получили** деньги. Их **передал министр Си**ваков через **Павличенко. Я знаю,** что он сказал: **"Это всем на мо**ральное успокоение".

Еще я знаю, что когда расстреливали этих людей, их убивали "Именем президента!".

Сейчас Павличенко ездит по стране. Он собирает людей своих, бывших краповиков, и говорит: "Мы еще свое слово не сказали. Надо президента защищать, президента". Говорит, что денег немеряно. Но после всего этого шума в прессе ему многие не доверяют, голову не хотят подставлять.

На мне крови нет. Сейчас я боюсь за свою жизнь и жизнь своей семьи. Я прошу КГБ, прокуратуру, журналистов — найдите и допросите всех этих людей, которых я назвал. Допросите непосредственных участников. Это Будько, Новаторский, Мекиянец, Коклин, Мурашко, Павличенко. Допросите их, солдат, которые в тот вечер были в наряде, допросите тех, кто яму копал. Они все видели. Нельзя, чтобы этот вопрос был просто похоронен.

Все".

# Мы абсолютно ясны

## Ответы помощника госсекретаря США по европейским делам Элизабет Джонс на вопросы агентства БелаПАН



**Вопрос:** *В этом году наиболее значительным событием политической жизни Беларуси являются президентские выборы. Соединенные Штаты неоднократно призывали белорусские власти к обеспечению их прозрачного и справедливого характера. Менее чем за месяц до выборов наблюдаете ли Вы признаки того, что официальный Минск услышал эти призывы?*

**Ответ:** И в своих заявлениях для общественности, и на уровне дипломатических контактов с белорусскими официальными лицами мы были абсолютно ясны, и я надеюсь, что власти хорошо понимают суть нашего призыва. Мы детально обсудили те практические шаги, которые им необходимо предпринять в рамках действующего законодательства для обеспечения соответствия выборов их же обязательствам перед ОБСЕ. Остается посмотреть, откликнутся ли белорусские власти на призыв коллег по ОБСЕ и многих других стран и международных структур к проведению предстоящих выборов на свободной и справедливой основе в соответствии с нормами, соблюдать которые Беларусь обязалась в рамках ОБСЕ. Мы считаем, что менее чем за месяц до выборов белорусская общественность должна иметь возможность обсуждать взгляды кандидатов на будущее Беларуси, а не становиться свидетелем того, как оппозиция лишается возможности конкурировать на равных.

К сожалению, есть ряд беспокоящих нас признаков того, что предстоящие выборы не будут ни свободными, ни справедливыми. На протяжении последних нескольких недель нападениям милиции подверглись неправительственные организации, чья деятельность, связанная с выборами, проходит вне каких-либо партий. Было захвачено оборудование, принадлежащее правительству США. Растет давление на независимые средства массовой информации, а оппозиция попрежнему вынуждена полагаться на милость властей в получении доступа к государственным СМИ на равной основе. Представительство белорусской оппозиции в центральной и местных избирательных комиссиях нельзя даже назвать ничтожным. Для создания равных условий контроля за выборами белорусским властям необходимо обеспечить представительство оппозиции в избирательных органах от местного уровня до Центральной избирательной комиссии. Равноправное соперничество предполагает и наличие независимых отечественных и международных наблюдателей. Спустя более чем месяц после объявления выборов, несмотря на рекомендации европейских структур, Беларусь затягивает направление Бюро по демократическим институтам и правам человека (БДИПЧ) приглашения провести наблюдение за выборами, хотя даже власти признают, что, как и любая другая страна—участница ОБСЕ, Беларусь обязана пригласить БДИПЧ.

**Вопрос:** *Существует ли возможность сотрудничества Соединенных Штатов и России в отношении выборов в Беларуси? По имеющимся сведениям, Кремль имеет серьезное влияние на белорусское руководство. Предпринимают ли Соединенные Штаты какие-либо шаги в этом направлении?*

*(Окончание на 3-й стр.)*

## Мечаслаў ГРЫБ: "Мы не займаемся падтрымкай таго ці іншага кандыдата. Мы назіраем за выкананнем закона"

— У адпаведнасці з Выбарчым кодэксам, артыкул 113, грамадскія аб'яднанні, зарэгістраваныя ў законным парадку, маюць права здзяйсняць назіранне за выбарамі. І гэтыя аб'яднанні, падкрэсліваю, зарэгістраваныя аб'яднанні, на прэзідэнцкіх выбарах ажыццяўляюць незалежнае назіранне — навучаюць людзей, даюць адпаведны дакумент для працы на выбарчым участку. Каб каардынаваць свае дзеянні, прадстаўнікі грамадскіх аб'яднанняў па назіранні збіраюцца разам, каб абмеркаваць, як гэта ўсё рабіць. Чамусьці Мінюст вырашыў, што каардынацыя гэтых дзеянняў з'яўляецца нейкім саюзам грамадскіх аб'яднанняў і супярэчыць заканадаўству. У рэчаіснасці ніякага саюза няма, і мы яго не збіраемся рабіць.

**— Мінюст спасылаецца на артыкул 13 Выбарчага кодэкса, згодна з якім "забаронена праводзіць апытанне грамадзян, якія прыбылі для галасавання і прагаласаваўшых".**

— Мы і не збіраемся гэтага рабіць. Усе, хто сцвярджае падобнае, проста займаюцца лухтой. Нашы назіральнікі будуць сядзець на выбарчых участках і глядзець, як выконваецца закон. Калі закон парушаецца, мы састаўляем адпаведны акт. Нашы арганізацыі не займаюцца падтрымкай ніводнага кандыдата — ні Лукашэнкі, ні Ганчарыка, ні Гайдукевіча. Мы ўсяго толькі назіраем. Нас цягнуць на адзін бок, на другі бок, але ж мы застаемся незалежнымі.

**— Як ідуць справы ў падрыхтоўцы назіральнікаў?**

— Справы ідуць добра, неабходная колькасць назіральнікаў падрыхтавана. Будзем іх накіроўваць на ўчасткі. Калі іх не будуць там прымаць, будуць перашкаджаць, будуць парушаць закон, мы будзем састаўляць адпаведныя акты.

**— Ад каго, на Ваш погляд, зыходзіць ініцыятыва апошніх страшылак Мінюста?**

— Мінюст сам па сабе не выступаў бы з падобнымі бязграматнымі і некваліфікаванымі заявамі, па сутнасці незаконнымі. Я ўпэўнены, што гэта заказ улады. Я не хацеў бы ўдакладняць, хто канкрэтна за гэтым стаіць — ці то Лукашэнка, ці то Мясніковіч, ці нехта іншы — адным словам, прадстаўнікі ўлад.

**Гутарыў Алесь СІЛІЧ.**

